# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

МЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА
СТУДЭНСТВА У ВІЛЬНІ.

№ 5 (6). ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК. ГОД II.

1925 г.



ВІЛЬНЯ.
Друкарня Н. Левін і Сын, Нямецкая вул. 22.
1925.

# ЗЬМЕСТ.

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка - навуковы і літэратурны месячнік Беларускага Студэнства.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. 12, 6.

Падпіска квартальна з перасылкай . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . . 1 зл.

№ 5 (6) | 1925, ВЕРАСЕНЬ, КАСТРЫЧНІК. | ГОД II.

## Вільня у беларускай літэратуры.

О, места роднае, каханае!
Цябе зальле крывіцкі рух!

*Ул. Жылка*

Што можа быць мілей чалавеку за родны кут, дзе ён радзіўся, узрос, перажыў усе радасьці і трывогі дзіцячае й юнацкае пары? І ці дзіва, што думкі паэта. асабліва, калі ён на чужыне, ірвуцца да роднай зямлі з нязьведанай сілай і даюць яму найвышэйшыя мамэнты натхненьня і творчасьці?

Бо-ж звычайна прадметам паэзіі зьяўляецца іменна тое, што найбольш захоплівае пачуцьцё і выабражэньне паэта. Дык зусім натуральна, што і нашая адраджэнская паэзія, твораная бадай выключна сынамі вёскі, захопліваецца перад усім жыцьцём вёскі, апявае яе красу і... нядолю.

Адраджэньне беларускага народу — гэта адраджэньне, галоўным чынам беларускае сялянскае масы. І наша новая паэзія на гэтай падставе ня толькі па зьместу, але і па сваёй ідэалёгіі, зьяўляецца паэзіяй вясковай. Жыцьцё места, дзе беларусы займаюць—сярод масы чужацкага насяленьня (датаго — чужацкае інтэлігенцыі) — зусім малы і неадпаведны лічэбнасьці іх куточак, ад самага пачатку беларускага руху адбівалася ў нашай паэзіі вельмі слаба.

Навет такі пісьменьнік—інтэлігент, як Вінцук Дунін-Марцінкевіч, хоць і правёў палову жыцьця на мястовым бруку, толькі ў адным месцы рысуе жыцьцё места Магілёва (у „Гапоне"), дый то толькі звонку, á vole d'oisean. Абуховіч у сваіх мэмуарах пакідае таксама

толькі мімалётны абраз Менску, не ўваходзячы ў яго ўнутранае жыцьцё. А Мацей Бурачок дык адносіцца да места прост няпрыхільна, навет варожа, калі гавора (гл. „Дудка Беларуская", верш „Немец"):

Ня люблю я места (па ра·ейску горад)!
Надта там цяснота і вялікі сморад,
А паноў—як маку ды сярод гароду,
Апроч таго, пропасьць рознага народу!
Наш брат, як увойдзе,—сам сябе баіцца:
Ці ісьці бяз шапкі, ці гдзе пакланіцца...

З местам зблiжае беларускую паэзію толькі рэвалюцыйны 1905 г.: так, найбольш яркая прадстаўніца тагачасных настрояў беларускіх, без пары памёршая Алёізія з Пашкевічаў Кейрысовая („Цётка"), дала цэлы рад вершаў, пасьвячоных рэвалюцыйным падзеям 1905 году на мястовым груньце („Хрэст на свабоду", „Чырвоны штандар" і інш.). Але другія пісьменьнікі таго часу, хоць настроеныя таксама рэвалюцыйна, пераносяць свой рэвалюцыянізм выключна ў вёску (Купала, Колас інш.)

Першы ўнікнуў глыбей у жыцьцё места, захапіўся ім да глыбіні душы і знайшоў у ім дастойную апяваньня красу — Максім Багдановіч. Дый ня дзіва: здаецца, ад двох гадоў веку ён жыў у месьце (Ніжні-Ноўгарад, Яраслаўль) і толькі студэнтам убачыў сваімі цялеснымі вачыма беларускую вёску, якую перш аглядаў з аддаленьня толькі вачыма душы. Характэрна, што **чужыя** месты, дзе ён жыў, не давалі Максіму Багдановічу натхненьня: толькі ў Вільні—духова **родным** месьце — „зьвярнуў яго Пэгас на вулкі з прывольных палявых дарог", толькі тут да яго душы прамовіла краса, укрытая ў месьце.

За Багдановічам ідуць: Колас, Зьмітрук Бядуля, Аляхновіх (драматычныя творы), далей — цэлы рад наймаладзейшых нашых паэтаў, вырасшых на груньце сацыяльнае рэвалюцыі. Адны з іх, як Якуб Колас, бачуць вонкавае хараство места—вачыма селяніна, якога **паражае** веліч гэтае нябачанае масы гмахаў і вуліц; другім места апавядае аб даўно **мінулых** часох (Багдановіч, Бядуля); трэціх захопліваюць праблемы сучаснага **мяшчанскага жыцьця** (Аляхновіч); іншыя бачуць у месьце арэну, на якую, кажучы славамі Міхася Чарота („Беларусь лапцюжная"):

„Па бруку гораду,
Бач рухае,
Рухае горда
Лазою падплецены лапаць",—

бачуць арэну, дзе творыцца новая беларуская кузьня сацыяльнае працы (А. Гурло: „Званы працы" ў зборніку „Верванак"),—куды, як у Мэкку, цягнуцца й вочы беларускіх адраджэнцаў—нацыяналістаў (Ул. Жылка: „Песьні аб Вільні").

Ды ня кожнае места мае такую прывабную сілу для тварцоў нашае адраджэнскае літэратуры: навет Менск, сучасная сталіца Беларускае Радавае Рэспублікі, прымушаны уступіць тут месца спрадвечнай сталіцы Беларусі—Вільні. Прымушаны уступіць месца Вільні, бо ня

мае таго, што мае Вільня: ня мае жывое дагэтуль **600-гадовае гістарычнае традыцыі**, ня мае **відавочных памятнікаў даўнае культуры і мастацтва**, а галоўнае — ня мае сваей асаблівай **Душы**, якую мае надвялейская сталіца і якая вызірае з кожнае вулкі старых кварталаў Вільні.

*
* *

Хаця храналягічна першым пяўцом Вільні зьяўляецца ў нас бясспрэчна Максім Багдановіч, мы пачнем наш агляд не з яго, а— з Коласа. Справа ў тым, што паэтычныя творы, пасьвячоныя Вільні, дзеляцца зусім выразна на дзьве групы: тыя, што малююць вонкавае хараство Вільні (—гэтых менш), і тыя, якія захопліваюцца ўнутраным жыцьцём гэтае нашае адвечнае сталіцы—„Душой“ места і яго людзьмі. У першай групе перад усім зварачвае на сябе ўвагу апісаньне Вільні Коласам у яго паэме „Новая Зямля“.

Запраўды, дадзены Коласам абраз Вільні — высока мастацкі. Гэта—від места з Замкавае Гары, від, які рэдка можна знайсьці ў вялікшых местах Эўропы наагул. І тым цікаўнейшым зьяўляецца гэтае апісаньне, што яго робіць верны сын вёскі, які першы раз папаў сюды і здумеўся, гледзячы на нязвычайную для яго, запраўды высокую красу Вільні. У сваей ацэнцы Вільні з вонкавага пункту гледжаньня Колас ужывае прыраўнаньняў і абразоў з вёскі і яе жыцьця, якія для яго бясспрэчна прадстаўляюць найвышэйшую меру красы.

А слаўны відак прад сябрамі
З гары высокай раскрываўся!

І зусім ня дзіва, што Коласаўскі гэрой, які першы раз папаў сюды з свайго глухога лесу, шчыра залюбаваўся гэтым відам:

Унізу гары віліcь прыгожа,
Як-бы дарожкі паміж збожа,
Дарожкі чыстыя крывыя;
Над імі дрэўкі маладыя
Свае галінкі раскідалі,
Шалаш зялёны ім сплялі.
Агромны горад, цесна зьбіты,
Увесь блескам сонейка заліты,
Займаў узгоркі і нізіны.
Дамы цягнуліcь, як віціны,
То ўздоўж, то ўпоперак радамі,
То закрываючысь садамі
Або узгоркам крутабокім;
А дзе васпанам адзінокім
Стаяў палац, як пан ў касьцёлі
Ў багатай вопратцы між голі.
Будынкі цесна грамадзіліcь,
Адзін к другому ўсе схіліліcь,—
Так, часам, ў полі ў беспарадку
Дурных авец пудліва стадка
Адна другую націскае,

Як, часам, воўк іх напужае.
А між дамоў, як-бы срэдзь горак,
Тых ручаінак сьветлы ворак,
Віліся вулачкі так, гэтак
Густою тканьню шэрых клетак.
Ўгары, высока над дамамі,
Пазалачонымі крыжамі
Блішчалі цэрквы і касьцёлы,
На сонцы зьяючы вярхамі,
І гоман іх званоў вясёлы
Гудзеў над горадам магуча,
Прыятна, гучна і пявуча.
Налева, між гор крутабокіх,
У берагох сваіх высокіх
Па камянёх, як тая зьмейка,
Вілась шумлівая Вялейка
І гдзесь-то нікла за гарою,
Крутнуўшысь хораша дугою.
А справа, ўніз, свабодным ўзмахам
Лягла другая рэчка шляхам,
Як-бы сталёвая пружына:
То Вілія—Літвы дзяціна—
Няслася важна між абрываў
Бліскучай стужкай зграбных зьвіваў,
Як-бы жывое срэбра. Хвалі
На сонцы чуць-чуць трапяталі.
Так ў майскі дзень дрыжыць лістамі,
Абліты сонейка лучамі,
Раскошны клён і пышна зьяе,
На сонцы лісьцікі купае.
На левам беразе ў шнурочак
Зялёных дрэў пралёг радочак,
Як стрэлка, роўненька, пад гору,
Як тыя буквы на паперу.
Дамы каменныя—грамады,
Палацы пышныя, пасады
Ўвесь правы бераг абступалі,
І цені іх ў вадзе дрыжалі.
І адбівалісь, як ў люстэрцы
У Веліі хмурынак перцы.
Што вісьлі белай чарадою
Высока ў небе над зямлёю.

І ўсё-ж сэрца вяскоўца не магло даканца захапіцца гэтым прыгожым абразом: краса вёскі аказалася для яго больш прывабнай! І растаялі нашы дзядзькі, як той воск на сонцы, калі з той-жа Замковай Гары — за морам дамоў і вуліц — угледзілі яны так знаёмыя і родныя ім абразы ніў, палёў і лясоў:

А там—за горадам—так здатна
І так прыгожа і прыятна

Палоскі нівак шлі абрусам,
Лясы, гаёчкі зграбным вусам
То тут, то там ў палёх чарнелі,
Як-бы на сонейку гарэлі,
Заслаўшысь наміткай тумана,
Лучамі сонейка сатканай.
І ў абразох тых самавітых
Палёў, задумаю спавітых,
Пачулісь родныя напевы
І дарагія сэрцу сьпевы
Для мужыкоў, сыноў заўзятых
Палёў, лясоў, лугоў багатых.
Ня горад гэты, не касьцёлы,
Не манастыр, ня сквэр вясёлы
Чаруе погляд задуменны:
Ральля іх кліча, грунт каменны,
Прастор палёў; іх цягнуць нівы,
Лясоў, гаёў і рэчак зьвівы,—
Там іх душа, там ўсе іх думы.
Ім далей хочацца ад шуму
Траскучых вуліц, перавулкаў,
Ад смроду гэтых закавулкаў!...
А на гарэ было спакойна,
Чуць далятаў сюды нястройна
Далёкі шум—і той зьмякчаўся,
Сюды нейк боязна ўрываўся.
Гара спакойна пазірала,
Маўчаньне важнае хавала,
Як сьведка тэй вялікай справы,
Што для пустой людзкой забавы
Ніколі вуст не раскрывае
І моцна тайну ахраняе.

Запраўды, нейкай тайнай прадстаўлялася Коласу ўнутранае жыцьцё ўсіх гэных гмахаў і муроў, і яго наш паэт зусім не закрануў... Вільня так і асталася для яго нейкай **„незнаёмай красуняй“**.

* *
*

Побач з вонкавай красой, у Вільні ёсьць шмат такога, што з красой ня мае нічога супольнага, ды што, як у кожным іншым вялікім месьце, і тутака б'ець па нэрвах, наводзіць нуду, зьнямогу і выклікае жаданьне—як у Коласаўскіх дзядзькоў — вырвацца некуды на вольны прастор, адпачыць ад аднастайнасьці вуліц і камяніц, ад банальнасьці іх аздоб, ад багацьця крамных вітрын... Адчуў гэта ўжо Колас, але йшчэ лепш—у васьмі толькі радкох! — прадставіў Максім Багдановіч у адным з вершаў „Вянка“:

Ад сьпекі пышуць дахі і асфальт.
На вуліцы уецца пыл і грукаціць хурманка.
„Каробушку“ пяе дзіцячы альт,
І надрываецца абрыдлая шарманка.

Хаця-бы крыху часу адпачыць!
Мо' на бульвар пайсьці, сесьць на далёкай лаўцы,
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?

Места, наагул, не дае Багдановічу сьветлых настрояў, бо ў месьце

...няма прастору
Дзеля прыроды буйных сіл,

бо яно

Прабіла сьцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў магіл.

Але Максім Багдановіч ведае дзьве Вільні.

Адна — гэта тое шаблённа-банальнае места, падобнае да ўсіх іншых сучасных мест, якое наш пясьняр так рысуе ў пасьвячоным Вільні соннэце:

Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыне...
Вітрыны... Мора вывесак... Як плямы,
Аннонсы і плякаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суючы рэклямы...
Разношчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул—усё ракой імкне.

А дальш—за радам кас, лямбардаў, банкаў,—
Агні вагзала... павадка хурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны сэмафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады!

А поруч з гэтымі „чароўнымі прынадамі“ сучаснага места, аб якіх Багдановіч так іранічна гаворыць, пясьняр наш бачыць і другую Вільню, якой ня ўбачыш пры мімалётным праезьдзе з вагзалу і йзноў на вагзал, якой ня бачаць мо' й вельмі многія сталыя жыхары гэтага места. Гэта — **Вільня мінулага**, — Вільня Скарынаў, Бабічаў, Брагаў і інш.— Вільня, якая на вечныя часы захавала сваё аблічча ў сваіх адвечных крывых вулках, у старадаўных будоўлях, касьцёлах, царквох... Як хараша прадстаўлена гэтая другая Вільня ў вершу Багдановіча, навеяным яму першай і, здаецца, апошняй бытнасьцяй яго ў гэтым месьце ў 1912 годзе і знаёмствам з віленскімі памяткамі мінуўшчыны:

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
І гараць агеньком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак—ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх старасьвецкіх будынкаў;

Між каменьнямі — мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблят—пільны сведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сьпяць
У небе копулы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай далёка чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Успамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны, затушылі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны:
Я—ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

Хто не перажываў настрояў, якія з такім мастацтвам адтварае Багдановіч у гэтым вершу, — той ня ведае Вільні і не разумее яе — і яе Душы... Багдановіч выкрыў у Вільні гэтую старую яе Душу і зачарпнуў з гэтае крыніцы поўнай жменяй натхненьне да сваей творчасьці, калі пісаў сваю знамянітую візію „Пагоні":

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, —
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць;
Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць!

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо' яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх—бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная! Маці — Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць...

* *
*

Ад **Вільні мінуўшчыны,** Вільні, дух якое лунае над штодзенным банальным жыцьцём гэтага места, усё больш губляючага сваё арыгінальнае аблічча,—пераходзе да **Вільні сучаснасьці** Францішк Аляхновіч.

Паскольку другія нашы паэты **прыходзілі** да Вільні, прывабленыя яе красой, **звонку**—з палёў і лясоў неаб'ятнага прастору Беларусі, — пастольку Аляхновіч зьяўляецца наскрозь **віленцам**, неадродным сынам Вільні. Ён—інтэгральная частка віленскага грамадзянства, хоць і рознаязычнага, але псыхалягічна даволі аднароднага. „Знамяніты" віленскі жаргон—так-званая „польшчызна" яе — найлепшы гэтаму доказ. І Аляхновіч, творачы радам сваіх драматычных твораў, узятых з віленскага жыцьця, як быццам поэму аб **людзях** Вільні—людзях **учорашняга** (даваеннага) **дня**, знамяніта адтварае індывідуальныя рысы тыповых віленцаў. У „На Антокалі" і ў „Шчасьлівым мужу", у „Маньцы" і ў „Страхах жыцьця", урэшце—у „Няскончанай драме", якая зачапляе і беларускую праблему,—усюды б'ецца пульс віленскага даваеннага жыцьця, сьпісаны прост абразкі і тыпы з натуры! Агульная бязыдэйнасьць і маральная нястойкасьць побач з імкненьнем да матэрыяльных выгад і карысьцяў — вось той агульны фон, на якім глохнуць і гібнуць вышэйшыя парываньні душы — да харaства, да творчасьці, да самаахвярнасьці дзеля ідэі. І праўды „ценямі" здаюцца тыя ідэйныя адзінкі, якія праходзяць праз гэтае банальнае, пустое жыцьцё таўпы і—гібнуць... А якой праўдзівай прадстаўляецца ў такой атмасфэры тая духовая драма, каторую перажывае беларускі адраджэнец Васіль („Няскончанай Драма"), які ўрэшце ўцякае з Вільні—ў Менск!..

Дарма шукалі-бы мы нейкае духовае красы, харaства ў віленскай таўпе, якую так па-мастацку, так праўдзіва, ня ўкрываючы нічога, апісвае Аляхновіч. І як праў быў Багдановіч, стаўляючы, як антытэзу, побач з сучаснай Вільняй—шаблённа-банальнай—Вільню старую, поўную дум вялікіх і творчае сілы, авеяную рамантычным туманам, зьвязаную з вялікімі гістарычнымі падзеямі і традыцыямі!

Але побач з гэтымі дзьвюмя Вільнямі існуе яшчэ й **трэцяя Вільня.** Вось, аб ёй мы спэцыяльна пагаворым.

* *
*

Вільня, якую малявалі ўсе разгледжаныя намі песьняры, — гэта ўсё йшчэ сталіца колішняе Беларуска-Літоўскае дзяржавы, гэта — сэрца абшырнага краю з яго чатырма нацыянальнымі групамі—беларусамі і літвінамі, як аўтахтонамі, і жыдамі ды палякамі, як прымакамі. Вільня, якую нам дагэтуль прадстаўлялі, гэта—сынтэз культур-

ных і ідэйных уплываў усіх гэтых нацыянальнасьцяў, пакрыты зьверху пакостам даваеннае маскоўшчыны. Так прадстаўляецца Вільня і Максіму Гарэцкаму, які ў „Антоне“ дае нам кінэматаграфічны абразок віленскага жыцьця—на фоне кавярні „Зялёнага Штраля“.

Але Вільня мае сваё **пачэснае месца і ў беларускім руху да адраджэньня.** Як у XVI і XVII сталецьцях білася тутака беларускае сэрца, змагаючыся з паланіўшай яго чужой культурай, так б'ецца яно тут і сяньня. Тут вырас ідэйна Ян Чачот і Сыракомля, пакінуўшыя ў беларускім пісьменстве значны сьлед у першую пару нашага нацыянальнага адраджэньня; тут працаваў і злажыў сваю галаву паўстанец-беларус Костусь Каліноўскі, „дыктатар Літвы“, які мо' першы разглядаў Беларусь, як палітычную катэгорыю; тут не адзін матыў пэўне зачарпнуў да сваей творчасьці Мацей Бурачок, тут расцьвіла і творчасьць Цёткі; і, як у часох Скарыны першая кніга, так ад 1906 году выходзіць у Вільні першая беларуская легальная газэта, ды з таго часу Вільня зьяўляецца галоўным цэнтрам беларускага руху, кузьняй беларускае адраджэнскае ідэалёгіі — **сэрцам Новае Беларусі.** І побач з масай чужога нам насяленьня расьце з году ў год лічба сьвядомых беларусаў—актыўных культурных і палітычных беларускіх дзеячоў, якія гуртуюцца ў Вільні, знаходзячы для сябе тутака найлепшыя варункі дзеля працы. Вільня цяпер вабіць беларускіх песьняроў ужо ня толькі беларускай мінуўшчынай ці міжнародавай сучаснасьцяй, але і сваей **сучаснай беларускасьцяй,** як месца творчае працы і змаганьня **жывых беларускіх сіл.**

Толькі зьлёгка—і мо', здаецца, ня зусім сьвядома—падыйшоў да гэтага ў сваей „Няскончанай Драме“ Францішк Аляхновіч. Затое зусім сьвядома глядзяць на вагу і значэньне беларускага культурна-нацыянальнага цэнтру ў Вільні два нашы навейшыя паэты—Зьмітрок Бядуля (ці Ясакар) і Уладзімер Жылка.

Бядуля, папаўшы ў Вільню, вельмі добра адчуў душу гэтага места і даў сваю даніну мінуўшчыне Вільні. Мы маем тут на думцы тыя вершы Бядулі, пасьвячоныя Вільні, дзе пясьняр наш перапрацоўвае легенду аб зялезным воўку і заснаваньні места, ды інш. Але аднача́сна Бядуля бачыць і гэтую новую беларускасьць Вільні, захопліваецца жывой творчай працай, якая кіпіць тутака ад 1905 году, схіляе галаву перад тымі жывымі людзьмі, што тут, на віленскім груньце, выкоўвалі першыя беларускія культурныя цэннасьці.

Бядуля будуе **жывы мост паміж Вільняй мінуўшчыны і Вільняй сучаснай.**

У 1912 годзе Бядуля, першы раз прыехаўшы ў Вільню і пазнаёміўшыся з галоўным цэнтрам беларускага руху даваенных часоў — рэдакцыяй „Нашае Нівы“, перажыў вельмі глыбака навеяныя яму тут уражаньні. Можна сьмела сказаць, што **Вільня аканчальна вызначыла Бядулі яго жыцьцёвы шлях.** Бядулю паразіла тут у роўнай меры як адраджэнская работа, так і тая спадчына па далёкай мінуўшчыне беларускага народу, каторую ён убачыў у пастаці бясцэнных збораў памятак старасьвеччыны, хаваных у той час с. п. Іванам Луцкевічам

у памяшчэньні рэдакцыі „Нашае Нівы". І сынтэз усяго гэтага прадставіўся Бядулі, як „Сьвятое мейсца", якое пясьняр наш апісаў у кароценькай імпрэсіі, ахвяраванай Івану Луцкевічу (гл. зборнік у памяць Ів. Луцкевіча, Вільня, 1920 г.):

Ноч. Ціха. Аўтар сядзіць у салі Рэдакцыі, абвешанай абразамі, тканінамі, зброяй старасьвецкай, устаўленай шафамі з старымі беларускімі рукапіснымі й друкаванымі кнігамі, калекцыямі манэт і т. п. І ў гэтай цішы прад ім паўстае візія тых даўных часоў, калі Вільня йшчэ была наскрозь беларуская, калі тут панавала родная мова беларуская, калі „народ не сароміўся мовы свае". А побач рысуецца малюнак „Забранага Краю" з усім яго трагізмам і засланяе сабой слаўную мінуўшчыну. Але „пад старым попелам" Бядуля ўжо бачыць у сэрцах беларусаў „гарачыя іскры". Ён усьведамляе сабе, дзе ён знаходзіцца, ўдумываецца ў значэньне таго, што творыцца на яго вачох, і—„нейкая жывая хваля абыймае яго ўсяго":

„Божа! Гэта-ж тут пачатак адраджэньня цэлага народу!

„Гэта-ж прамень шчырага парыву беларускіх сыноў!

„Гэта-ж тут працуець сям'я маладых сіл, каторыя не шкадуюць ахвяраваць сваё жыцьцё, сваё шчасьце за вялікі Беларускі Народ!..

„Сьвятое гэтае месца...".

Так колькінаццаць гадоў назад пісаў Бядуля аб **галоўным вогнішчы беларускасьці ў Вільні**—тэй Вільні, якую ў іншым месцы ён называе „беларускім Сыонам". Бядуля як-быццам **туманна прадбачыць тую будучыню** Вільні, аб якой другі наш паэт — пясьняр нашага нацыянальнага самаўсьведамленьня, Уладзімер Жылка, гаворыць ужо **зусім канкрэтна** ў сваіх недрукаваных яшчэ дагэтуль „Вершах аб Вільні", напісаных сёлета ў Празе Чэскай і пасьвячоных „старому віленцу Антону Луцкевічу". Што паміж думкамі — лятуценьнямі Бядулі і Жылкі істнуе цесная сувязь, на гэта паказуе хаця-бы тое, што за motto дзеля сваіх „Вершаў аб Вільні" Жылка ўзяў гэтыя вось словы Бядулі, скіраваныя да далёкае цяпер ад іх абодвух Вільні:

**„Сумуе душа па Табе, Беларускі Сыоне!"**

Падаем „Вершы аб Вільні" Жылкі ў цэласьці:

I.

Калі сябры нас гудзяць згубаю
І ворагі прарочаць скон,—
Тады к Табе, о Вільня любая,
Прыводзяць згадкі у палон.

У маіх лятунках ты—ўладарная,
Пануеш ты, харашыня:—
Завулкаў сон і ціш кляштарная,
Вяльлі празрыстай глыбіня;

Вялікай вуліцы экзотыка,
Тэатры, кіно, шпіталі;
І маліцьвенна ўзносіць готыка
Да неба тонкія шпілі;

Сьвятая Ганна—сьпеў, напеўнасьцю
Салодка ўзрушаны ўсягды;
А поруч з бізантыйскай пэўнасьцю
Царква прысела ля вады;

У вечар за гарой трахкрыжнаю
Палае захаду пажар,
Як знак, што веліччу аблыжнаю
Яна ня выкліча ахвяр;

І плюск Вялейкі, хвалі ветрыка
Люляюць Бэрнардынскі сад;
І мігаціць праз ноч электрыка
У зацёмкаў мескіх шалы чад;

Плыве па вулках пыха панская,
Распуста, блуднасьць і мана;
І ярасьць жорсткая, паганская
Бліскае ў вочах літвіна;

Ў жыдоўскім гетто—дробязь клопаты
І аб Сыоне сны ў туман;
І гэткі-ж сум і тыя-ж допыты
Вядуць таполі Базыльлян;

А там—па-над мурамі даўнымі,
Дзе места ўсенькае відно,
Руіна думамі дзяржаўнымі
Гадае там: чые яно?

Але ўжо лёс рукой няўхільнаю
Загад вызначвае з вякоў:
**Усё магутней б'е пад Вільняю**
**Прыбой нямоўкнучы з палёў.**

Ўсё пераможней нястрыманае
Стыхіі шум і бурны круг...
О, места роднае, каханае,
**Цябе зальле крывіцкі рух!**

II.

О, Вільня крывіцкая Мэкка!
О, места—ўсе цуд, харство!
Дзяржаўная думнасьць павекаў
Узьнята рашуча брыво!

Абліччам пад ветры і буры
Туды—у разлогі палёў,
Дзе гоняў рунелыя суры*),
Узіраешся поўная сноў.

Чытай-жа, чытай-жа праз цемень,
Праз гэты бяздольля туман—
Там дзеці жаданьнем, бы крэмень,
Кляліся на новы каран.

Там дзеці (твае яны дзеці!)
З-пад сьлепых, закураных хат...
Вітай жа—ў часы ліхалецьця
Змагарскі іх блішча пагляд.

Ім кажуць прапасьці са сьвету,
Ў парожнасьць рассеяцца, ў дым;
Ды думкай, бы выш мінарэту,
Стаяць яны ў ветрыску злым.

Ім доля дала паніжэньне,
Ды Бога крым Бога няма;
І Бог іх адзін—вызваленьне
І зьненавісьць іх да ярма.

Руіна замчышча—Кааба—
Ім прошча ўздыханьняў і дум,
Салодкіх лятункаў—прываба,
Ў сваім запусьценьні—іх сум.

У крыўдзе і горы пякельным
Пагудкі, як клічу малны,
Чакаюць наўкол непадзельна,
Каб рушыць разводзьдзем вясны.

Ўжо ў песьнях зьвініць перамога
І крокамі курыцца шлях....
Але ці там чуеш сьвятога?
Ці вее пракаравы сьцяг?

Ці ён, паганяты няўзнаны,
Душой шчэ згарае між нас,—
Хоць месяц мінуў Рамадана**),
І вызначан тэрмін і час?

Ці сэрца гартуе да чыну?
Ці ў модлах да бога свайго?

*) Сура—разьдзел Карану.

**) У гэтым месяцы—уначы 23 ці 24 Рамадана, як вераць магамэтане, быў праз ангела Джабрыэля пасланы Магамэту каран.

Між тых, што ўцяклі да Мэдыны,
Ці бачыш, ці бачыш яго?

І ты ці чакаеш пад зьдзекам,
Што бомкне ўрачыстая медзь?...
О, Вільня, крывіцкая Мэкка!
Ці варта прарока ты стрэць?

1925 г. Прага.

Запраўды, **Мэккай** выдаецца беларускаму песьняру тая **Вільня**, з якое сяньня беларуская Ідэя аказалася прымушанай уцячы ў **Мэдыну—Менск**, скуль—верыць Жылка—яна, гэтая Ідэя, як некалі Магамэт у Мэкку, вернецца йзноў у Вільню ў-ва ўсей сваей велічы і славе... І сваей нязвычайна чуткай душой паэт прачувае разьвязку споркі аб Вільню, бо вуха яго ловіць ужо гул таго „прыбою", што „ўсё магутней б'е пад Вільняю"—з **беларускіх палёў**!

Гэта й ёсьць тая трэцяя Вільня—**Вільня будучыны.**

* * *

У паэзіі—у самай аснове яе—ёсьць бясспрэчна элемэнт прадбачаньня, вешчаваньня. Паэт—запраўды ў пэўнай меры прарок, і прадбачаньне ім будучыны мае пад сабой моцны грунт: бо жыцьцё далёка не заўсёды разьвіваецца **рацыянальна**—згодна з лягічнымі мяркаваньнямі чалавечага розуму. І вось якраз паэт сваей чуткай душой умее часам улавіць тое, што, об'ектыўна разважаючы, звычайныя людзі лічаць немагчымым—**ірранацыянальным**.

Мо' сяньня такім ірацыянальным будзе здавацца лятуценьне Уладзімера Жылкі аб **будучай Вільні**, як аб **месьце беларускім**: запраўды, трудна даць веры таму, каб такія магутныя тут сяньня ўплывы, як польскі і жыдоўскі, уступілі месца беларускім уплывам. Але... але ўся гісторыя Вільні, колішняй **сталіцы Літвы**, стаўшайся **галоўным асяроднам беларускае культуры** ад самага свайго заснаваньня, пасьля абярнуўшайся ў **рассаднік польшчыны** і—ў **„русскую твердыню"**, а цяпер ізноў абернеанай у **„czysto polskie miasto"**,—усе гэтыя зьмены ясна паказуюць, што нішто вечным лічыцца тут ня можа... І хто ведае, ці лятуценьні-сны Жылкі ня бліжэй да праўды, чым вера сучасных гаспадароў Вільні ў тое, што места, **збудаванае потам і крывёй беларускага і літоўскага народаў**, можа вечна працівіцца і адбіваць **„прыбой з беларускіх палёў"**?!...

**Ант. Навіна.**

Вільня, 6. VI. 1925.

Ю. Плеханаў.

# Дыялектыка і лёгіка.

Філёзофія Маркса і Энгэльса—ня толькі матэр'ялістычная філёзофія. Яна ёсьць дыялектычны матэр'ялізм.

Але проці гэтай навукі засьцерагаюцца, кажучы, першае, што дыялектыка сама па сабе не вытрымоўвае крытыкі, а другое, — што матэр'ялізму навет ня можна злучыць з дыялектыкай.

Спынімося на гэтых запярэчаньнях.

Ведамы крытык Маркса—Бернштэйн якраз уплывам дыялектыкі тлумачыў тое, што ён лічыў абмылкамі Маркса і Энгэльса.

Бо-ж, зразумела—лёгіка трымаецца формулы: „так-так“ і „не-не“, а дыялектыка ператварае гэтую формулу ў проста проціляжную: „так-не“ і „не-так“.

Дык не далюбліваючы гэтай апошняй формулы, Бэрнштэй сцьвярджае, што яна здольна ўвясьці чалавека ў найбольш небясьпечныя спакусы і абмылкі.

І з ім, пэўна-ж, згодзіцца вялізарная большасьць так-званых асьвечаных чытачоў,—таму што формула „так-не і не-так“, відавочна, востра супярэчыць аснаўным непарушным законам мышленьня.

Вось гэты бок справы нам і трэба тут разглядзець.

---

„Аснаўных законаў мышленьня“ лічыцца тры:

1) закон тожсамасьці; 2) закон супярэчнасьці; 3) закон выключанага трэйцяга.

Закон тожсамасьці (principium identitatis) кажа: „а ёсьць а“ (omne subjectum est praedicatum sui), або інакш—„а—а“;

Закон супярэчнасьці—„а ня ёсьць не-а“—уяўляе сабой толькі негатыўную форму першага закону.

Згодна закону выключанага трэцяга (principium exclusi tertii) — два супярэчныя цьверджаньні, якія выключаюць адно другое, ня могуць быць абодва абмылковымі. Дапраўды ж, А есьць або Б, або ня-Б; праўдзівасьць адваго цьверджаньня неадхільна азначае абмылковасьць другога і—наадварот. Сярэдзіны, нейкага „трэйцяга“ тут быць ня можа.

Ібэрвэг (нямецкі філёзоф-лёгік) заўважыў, што закон супярэчнасьці і закон выключанага трэйцяга могуць быць аб'яднаны ў такое лёгічнае правіла: на кожнае точна азначанае, дый у тым самым точным сэнсе панятае пытаньне—пра прыналежнасьць пэўнай азнакі тэй ці іншай рэчы—трэба адказаць або—„так“, або — „не“, але ня можна адказаць—„і так і не“.

Цяжка штось закінуць гэтаму правілу.

А калі яно — справядліва, дык формула „так-не“ і „не-так“ выдаецца зусім нязДатнай, і нам астаецца толькі пасьмяяцца з яе, па

прыкладу Бэрнштэйна, дый пачасаць патыліцу—з поваду пытаньня—як-жа-ж гэта такія бясспрэчна глыбокія мысьліцелі, як Геракліт,Гэгэль і Маркс, маглі лічыць яе больш задаваляючай, чым формулу: „так-так“ і „не-не“, якая моцна апіралася на вышэй азначаных законах мышленьня.

Гэты забойчы для дыялектыкі вывад выдаецца зусім няпераможным. Але перш, чым згадзіцца з ім, паглядзімо на справу з іншага боку.

Аснову ўсіх зьявішчаў прыроды складае рух матэрыі. Але—што такое рух.

Гэта-ж —ідавочная супярэчнасьць. Калі-б запытацца, ці знаходзіцца цела,што рушыцца, ў пэўны мамэнт у пэўным месцы (ў супакоі), дык—пры найшчырэйшым жаданьні ня можна было-б даць адказ паводле правіла Ібэрвэга, ці згодна формуле: „так-так і не-не“. Бо цела, што рушыцца, знаходзіцца ў пэўным месцы і ў той-жа час не знаходзіцца ў ім. Пра яго інакш ня можна сказаць, як паводле формулы: „так-не і не-так“. Яно зьяўляецца гэткім чынам найлепшым сьведкам на карысьць „лёгікі супярэчнасьцяў“, і той, хто ня хоча паміріцца з гэтай лёгікай, павінен заявіць разам з старым Зэнонам (старажытны грэцкі філёсаф), што рух ёсьць ня што іншае, як мана ўражаньняў.

Усіх тых, што прызнаюць рух, мы запытаем: што-ж гэта за такі „аснаўны закон“ мышленьня, які супярэчыць аснаўному факту быту?! Ці ня трэба нам адмясьціся да яго... з нейкай асьцярогай. Бо выходзіць, што мы як-быццам апынуліся перад выбарам: або прызнаць аснаўныя законы фармальнай лёгікі і не прызнаваць руху, або — наадварот—прызнаць рух і ня прызнаць гэтых законаў. Але гэткі выбар — вельмі няпрыемны. Паглядзімо, ці ня можна неяк абыйсьці гэтую няпрыемнасьць.

---

Рух матэрыі ляжыць у аснове ўсіх зьявішчаў прыроды. Але рух ёсьць супярэчнасьць. Дык пра яго трэба меркаваць дыялектычна, ці, як сказаў-бы Бэрнштэйн, паводле формулы: „так-не і не-так“, дык дзеля таго мы павінны прызнаць, што, пакуль гаворыцца пра аснову зьявішчаў, мы знаходзімся ў галіне „лёгікі супярэчнасьцяў“.

Але малекулы матэрыі, што рушыцца, злучаюцца адна з адной, ствараюць тыя ці іншыя злучэньні—рэчы, прадметы. Гэткія злучэньні адзначаюцца большай ці меншай трываласьцяй — істнуюць больш-менш працяжны час, а пасьля зьнікаюць, замяняючыся іншымі: вечным ёсьць толькі рух матэрыі, дый сама гэтая нязьніштажымая матэрыя. Дык вось, як толькі — у выніку гэтага вечнага руху матэрыі — стварылася пэўнае тымчасовае злучэньне матэрыі і пакуль яно ня зьнікла—у выніку таго-ж самага руху,—на пытаньні пра яго істнаваньне няўхільна трэба адказваць у пазытыўным сэнсе. Дзеля таго, калі нам пакажуць на плянэту (зорку Вэнэру) і запытаюцца, ці істнуе гэтая зорка, дык мы, ня хістаючыся, адкажам: так. А калі нас запытаюцца, ці істнуюць ведзьмы, дык мы таксама рашуча адкажамо: не. Што гэта азначае. Гэта значыць, што, калі гаворыцца пра асобныя

рэчы, дык у развагах пра іх мы павінны падлягаць вышэй прыведзенаму правілу Ібэрвэга і наагул кіравацца „аснаўнымі законамі мышленьня“. У гэтай галіне і пануе прыемная для п. Бэрнштэйна формула: „так-так і не не“.

Але і тут улада гэтай важнай формулы не бязьмежна. На пытаньне пра істнаваньне рэчы, якая ўжо стварылася, трэба адказваць цьвердзячы. Але, калі рэч яшчэ толькі ствараецца, дык іншы раз з поўнай слушнасьцяй можна хістацца пры адказе. Калі, напрыклад, у чалавека палова галавы без валос, дык мы кажам, што ён—лысы. Але спрабуйце сцьвярдзіць, колькі выпаўшых, ці астаўшыхся валос на галаве робяць яе лысай...

На кожнае точнае пытаньне аб прыналежнасьці пэўнай рэчы пэўнай азнакі трэба адказваць—або „так“ або „не“. Гэта—бяссумліўна.

Але-ж, як накажаце адказаць у тым разе, калі рэч сама зьмяняецца, калі яна ўжо пазбаўляецца пэўнай азнакі, ці — яшчэ толькі набывае яе. Зразумела, што пэўны адказ трэба даць і ў гэткім выпадку; але ў тым якраз уся справа, што пэўным адказам тут будзе толькі адказ, пабудаваны не формуле: „так-не і не-так“, але адказаць на яго паводле формулы Ібэрвэга: „або так, або не“ зусім ня можна. Здаецца, мож а было запярэчыць гэтаму, даводзячы, што азнака, якая зьнікае, яшчэ не перастала істнаваць, а азнака, што—яшчэ ў працэсе набыцьця, ужо істнуе,—дык і пэўны адказ—паводле формулы „або так, або не“ — магчымы і абавязкавы навет і тады, калі рэч, аб якой гаворыцца, знаходзіцца ў стане зьмены. Аднак, гэта няпраўда. Дзяцюк, у якога на падбародку пачаў „прабівацца пушок“, бесьпярэчна ўжо набывае бараду, але гэта яшчэ не дае нам падставы лічыць яго барадатым. Пушок на падбародку—не барада, хаця ён і пераўтвараецца ў бараду. — Каб стаць яснай, зьмена павінна дасягнуць пэўнай колькаснай мяжы. Хто забывае пра гэта, той якраз і пазбаўляецца магчымасьці выразіць словам пэўны с'д пра тыя ці іншыя азнакі рэчаў. „Усё цячэ, усё зьмяняецца“, кажа старадаўны эфэскі мысьліцель (Гераклт). Злучэньні, якія мы называем прадметамі, знаходзяцца ў стане заўсёднай, больш-менш хуткай, зьмены. Паколькі пэўныя злучэньні астаюцца тымі ж злучэньнямі, мы павінны судзіць аб іх паводле формулы: „так-так і не-не“. Але паскольку яны зьмяняюцца і перастаюць істнаваць, як пэўныя, мы абавязаны зьвярнуцца да „лёгікі супярэчнасьці“—мы павінны казаць, рызыкуючы выклікаць нездаволеньне п. Бэрнштэйна і іншай мэтафізычнай хэўры: — „і так, і не“—„і істнуюць, і ня істнуюць“.

Як спакой ёсьць ня больш, чым адзіночны выпадак руху, таксама і мышленьне згодна з правіламі формальнай лёгікі (згодна з „аснаўнымі законамі“ думкі)—ня больш, чым адзіночны выпадак дыялектычнага мышленьня.

Кратыл, адзін з вучняў Плятона, не згаджаўся навет з Гераклітам, які казаў, што „мы ня можам двойчы прайсьці праз адну і тую ж раку“.. Кратыл цьвярдзіў, што мы ня можам зрабіць гэта навет і адзін раз: пакуль мы пераходзім, рака зьмяняецца, робіцца сама ўжо

ня той самай, але іншаю... У гэткіх меркаваньнях элемент таго быту, які быццам пэўны перад намі, замяняецца элемэнтам станаўленьня. Але-ж гэта ўжо—надужываньне дыялектыкай, але не законнае карыстаньне запраўдным дыяляктычным мэтадам. Гэгэль кажа: „Etwas ist die erste Negation der Negation“ („штось, ці нешта ёсьць першае запярэчаньне запярэчаньня“). Тыя з нашых крытыкаў (эканамічнага, ці дыяляктычнага матэр'ялізму), якія не пазбаўлены цалком знаёмасьці з філёзафічнай літэратурай, любяць паклікавацца на Трэндэленбурга, які быццам дарэшты разьбіў усе доказы на карысьць дыялектыкі. Але гэтыя паны-дабрадзеі ня вельмі ўважна чыталі—калі наагул чыталі—гэтага Трэндэленбурга. Трэндэленбур прызнае, што „прынцып супярэчнасьці“ можна прыкладаць не да руху, але толькі да тых рэчаў ці прадметаў, якія гэтым рухам створаны. І гэта—справядліва.

Але рух ня толькі стварае рэчы. Ён, як мы сказалі, заўсёды зьмяняе іх. І вось якраз дзеля таго лёгіка руху („лёгіка супярэчнасьці“) ніколі ня траціць сваіх правоў над створанымі рухам рэчамі. І якраз дзеля гэтага мы, аддаючы ўсё належнае „аснаўным законам“ фармальнай лёгікі, павінны памятаць, што яны маюць значэньне толькі ў пэўных межах, толькі ў тэй меры, у якой яны не перашкаджаюць нам аддаваць таксама належнае і дыялектыцы. Вось, як яно выходзіць напраўду паводле Трэндэленбурга, хоць сам ён і не зрабіў усіх належных лёгічных вывадаў з сваіх цьверджаньняў, — з сваяго надзвычай важнага для навуковай тэорыі пазнаньня — прынцыпу.

Дадамо тутака дарэчы, што ў „Lagischene Untersuchungen“ Трэндэленбурга рассыпана шмат цэнных увагаў, якія кажуць ня проці нас, але—за нас. Гэта можа паказацца дзіўным, але гэта лёгка тлумачыцца тым, што Трэндэленбург ваяваў якраз з ідэалістычнай (а не матэр'ялістычнай) дыялектыкай. Так, напрыклад, ён бачыць ваду дыялектыкі ў тым, што яна сцьвярджае самавольны ці самачынны рух чыстай думкі, а тая думка ёсьць адначасна самаспараджэньнем быту. Гэта запраўды-ж вельмі вялікая памылка. Але хто не зразумее, што гэта хіба ёсьць асаблівасьцяй толькі ідэалістычнай дыялектыкі. І хто-ж ня ведае, што, калі Маркс захацеў паставіць (стаяўшую, як ён казаў, дагары нагамі) Гэгэлеву дыялектыку „на ногі“, дык ён пачаў якраз з напраўленьня гэтай аснаўной абмылкі, выкліканай яе старой ідэалістычнай асновай.

Другі прыклад. Трэндэленбург кажа, што, праўда, ў Гэгэля рух ёсьць фундамэнтам той лёгікі, якая для сваяго абаснаваньня быццам не патрабуе больш ніякіх дапушчэньняў. Ізноў гэта — справядліва. Але гэта-ж ізноў—доказ на карысьць матэр'ялістычнай дыялектыкі.

Трэці, і найцікаўнейшы прыклад. На падставе словаў Трэндэленбурга дарма кажуць, быццам у Гэгэля прырода ёсьць толькі „прыкладная лёгіка“.

Але-ж зусім наадварот: Гэгэлева лёгіка зусім ня ёсьць спараджэньнем чыстай думкі;—яна (лёгіка Г.) створана папярэдняй абстракцыяй ад прыроды.

У дыялектыцы Гэгэля амаль ня ўсё ўзята з досьледу; і калі-б досьлед адабраў ад яе назад усё, што яна пазычыла ў яго, дык ёй

прыйшлося-б надзець жабрацкую торбу... Вось гэта—праўда. Але акурат гэта самае казалі тыя вучні Гэгэля, што паўсталі проці ідэалізму свайго вучыцеля і перайшлі ў лягер матэр'ялізму.

Можна-б прывясьці яшчэ шмат падобных прыкладаў, але гэта-б аддаліла мяне ад майго прадмету. Я хацеў толькі паказаць нашым крытыкам, што на Трэндэленбурга ім у барацьбе з намі лепш было-б зусім не паклікавацца. (Пераклад з украінскага).

(Працяг будзе).

# Сум.

Шэры, як васеньняя імгла... ціхі і спакойны, як уздох заснуўшага дзіцяці. Пад яго лёгкай ступою галінка ня трэсьне, лісток не ўскалыхнецца, травінка не задрыжыць... У сваіх вечных падарожжах ня мінае ён ні хатак курных, ні палацаў багатых, ні працы цяжкай, ні гульні вясёлай і ўсюды па волі сваёй ахвяр сабе выбірае... Ускалыхнецца душа выбранага чалавека, ускалыхнецца і дрыгне, калі ўпадзе на яе узгляд яго вочаў.

Дзіўныя гэтыя вочы! Шэрыя, як ён сам, вялікія, незгаданыя.., а на дне іх нязьмеранай глыбіні сьвеціцца магутным блескам маленькая іскрачка нейкага таёмнага, бяссьмяротнага жыцьця...

Дзіўная сіла іскрачкі тае... Зачаруе яна душу тваю, чалавеча... выкіне з яе даўнейшыя ўсе думкі і жаданьні; напоўніць адным вялікім чуцьцём жуды за нейчым нязнаным і прыкуе да сябе, прыкуе ланцугамі жалезнымі.

Адгэтуль душа ўжо не твая... Прападуць твае ўсьмехі вясёлыя, згінуць думкі радасныя, змоўкнуць песьні прывольныя...

Перад табою, як дзень, так ноч, гарыць іскрачка таёмная на дне вялікіх, шэрых вачэй. Душу тваю і думкі твае апануе густой сеткай моцная шэрая павуціна, у вачох тваіх разальецца шэры цень „яго" вачэй. Кожная капелька крыві тваёй належыць да „яго"... твайго пана...

— І не цяжкая табе, чалавеча, гэта няволя?

— Не, яна робіцца патрэбай жыцьця твайго; не перажыў-бы ты разлукі з гэтай парай бліскучых, дзіўных, магутных вачэй.

Іх сіла дадае духу твайму моцы вялікай. Як-бы крылаў прыдбаўшы, узносіцца ён па-над дробезь штодзеннага жыцьця і лунае ў краіне нязбытых ідэалаў.

І расьце дух твой і мацуецца, толькі-ж коштам цела твайго.

Бо гэтыя шэрыя павуцінкі, што абматалі душу тваю і сэрца твае выпіваюць кожную капельку крыві тваёй...

— Бо гэтыя вялікія, шэрыя вочы зганяюць сон з галавы тваёй...

І робішся ты й кволы, і бледны, а людзі дзівуюцца і кажуць: „ён хворы".

— А калі спаткаеце чалавека бяз усьмеху на пабялеўшых вуснах і з шэрай ценьню у задуманых вачох, то ня пытайцеся, што яму? а так і ведайце, што яго ўзяў у свае нявольнікі вялікі, усемагутны Сум.

З. В.

Менск 13/X. 15 г.

В. Грывіч

# Жывое дрэва.

З цыклю апавяданьняў аб лесе.

*(Усе правы аўтар пакідае за сабой)*

(Глядзі № 4 (5) Студ. Думкі).

II.

Не пасьпелі Паўлюк з Міхасем нават схавацца ў весцы, як з-за суседняй бярозы ўсталі два хлапцы, што, завеўшы на начлег коні, варочаліся каля магільніку нацянькі ў вёску.

— „Ну і штукар-жа ты, Рыгор!.. Трэба-ж гэтак напужаць людзей; гэта-ж яны цяпер аж да сьмерці будуць баяцца хадзіць на магільнік".

— „І ня трэба, каб яны сюды хадзілі. Паглядзі ты сам, Ігнат, ці табе ня шкода гэтых прыгожых дрэў, гэтага адзінага характва нашай вёскі?!.. Людзі благія ў нашай роднай зямельцы пазбавілі нас нашага лесу, нам асталася толькі некалькі лічаных дрэў, што шумяць тут на магілках, дык ты-б можа хацеў, каб мы ўласнымі сваімі рукамі агалілі і гэта сьвятое для нас месца?!.. О, не!.. не, Ігнат, мы да гэтага дапусьціць не павінны. Ці-ж ня міла бывае табе ў гарачы дзень зайсьці сюды аддыхнуць у іхняй цені?... А як прыйдзе старасьць, як сьмерць сваею страшнаю касою зложа цябе ў дамаўе, хто апошні песьняй сваею будзе цябе прысыпаць, калі ня гэтыя прыгожыя дрэвы.... Так гэтыя дрэвы мы павінны шанаваць, а на кражу, калі лёс ужо нам суліў красьці дрэва, можна найсьці іншае месца".

— „Праўда твая".. адказаў яму на гэта ціха Ігнат, нізка нахіляючы сваю галаву да зямлі.

Яны моўчкі йшлі к вёсцы, думаючы кожын сваю думку.

— „Ігнат", адазваўся на астатку Рыгор, „пабажыся, што ты нікому ня скажаш, што мы так настрашылі Паўлюка з Міхасём; хай лепш усе думаюць, што гэта было сапраўды зданьне".

Ігнат ціха кіўнуў галавой у знак сваей згоды. Большага Рыгор не дамагаўся, бо знаў, што гэтаму чалавеку можна верыць. Моўчкі яны падыйшлі да гумнаў, каб ісьці кожын да свае хаты. Ігнат ужо пачаў пералазіць праз плот, як раптам Рыгор, моцна перш быў які задумаўшыся, схапіў яго за руку.

— „Пачакай, Ігнат, ты мне паможаш занясьці з нашага гумна кусок бярозы пад Паўлюкову пуню".

Ігнат глядзеў на яго і ня ведаў, ці верыць гэтаму, ці не: на такі зварот рэчы ён ніяк не спадзяваўся.

— „Ці ты, Рыгор, звар'яцеў, ці што?“

— „Ані думаў нават. А толькі падумай ты сам, ці-ж Паўлюк з дабра пайшоў красьці на магільніку бярозу; яму яна патрэбна, а мы маем многа“.

Праз мінут пятнаццаць усё было зроблена. Рыгор і Ігнат вясёлыя і йшлі ад Паўлюковай пуні к сваім гумнам.

— „Толькі-ж ты, Ігнат, нікому не кажы, што гэта мы занясьлі яму бярозы“.

— „Што ты мяне за дурня маеш, ці што, каб я гэта казаў”.

III.

Гэта ноч Паўлюку і Міхасю была надта даўгою; заснуць яны не маглі ні як: прад імі ўставаў магільнік, чуўся голас нябошчыка. Але ўсяму бывае свой канец. Так было і з гэтай ноччу. Пад гарачымі прасмамі сонца цемра хутка пачала зьнікаць, усё ажыло і загаварыла. У гаёх зашчабяталі птушкі, ля студняў скрыпнулі асьверы і дзень пачаўся.

Паўлюку пасьля гэтай цяжкой ночы ён здаўся такім сьветлым, вясёлым, як ніводзін з перш пераж ытых і ён з радасьцяй і пасьпешна выйшаў на двор, з двара ў гумно. Убачыўшы ля пуні тоўсты камель бярозы, ён сам ня ведаў, ці верыць сваім вачам, ці не і спачатку нават падумаў, што гэта сон. Але гэта ня быў сон: бяроза была праўдзівая і, як ён сябе не стараўся абудзіць, нікуды ня зьнікала.

IV.

Прайшло з таго часу нешта ўжо з тры гады; шмат што за гэты час на сьвеце перамянілася, але Паўлюк і Міхась і сягоньня ўсіх упэўніваюць, што ў іх прасіўся нябошчык, каб яны яго ня рэзалі і што гэты нябошчык ім прынес пасьля дрэва.

На магільнік красьці дрэва яны болі ня ходзяць і другіх ад гэтага перасьцерагаюць. А калі здарылася адзін раз, што Рыгор з Ігнатам, слухаючы, як Паўлюк баяў сялянам аб сваім здарэньні на магілках і ў гумне, ціха ўсьміхнуліся, ён іх абазваў дурнямі.

Рыгор і Ігнат яму на гэта нічагусенькі не адказвалі.

Вільня, 19. IV. 1925.

# НОЧЫ.

I.

О ночы цёмныя.. душныя... парныя ночы летнія... Якой ціпынёй напаўняеце вы зямлю, як зайздросна сьцеражэце вы ўвітую кветкамі і травамі калыбку яе ад шэпту вецярка, ад шуму крылаў пту-

шачых... Цёмна і ціха... сьпяць лісьці на дрэве; сьпяць травы і зёлкі; сьпяць мушкі і казюлькі; сьпяць матылькі рознакалёрныя... А над імі разцягівае апякунчыя крылы свае цёмная летняя ноч, спавітая ў араматы кветак і празрачную імглу сініх вод...

---

Чаму ты, ночка цёмная, не даеш сну і забыцьця душы чалавечай?..

Чаму яна б'ецца і трэплецца, як раненая птушка ў муках дарэмнай тугі і шалёнага жаданьня...

Чаму яна, як пакутніца, блудзіць у тваей цемнаце і не знаходзіць у ёй спакою і цішыні....

Чаму тады, як усё сьпіць і спачывае, яна мучыцца пачуцьцём сваіх лішніх сіл?..

Што гэта за сілы?

Ці сілы дрэмлючага артызму, што стварыць можа цуд, які людзкасьць зьдзівіць?..

Ці сілы розуму, што можа папхнуць сьвет на новыя пуціны быту?..

Ці сілы каханьня, што адчыняе дзьверы Сэзаму і дае чар — шчасьце?...

---

Ня ведаю якое імя тых сілаў, што бўдзяцца да жыцьця ў парныя, цёмныя, летнія ночы...

. . . . . . . . . . Ня ведаю . . . . . . . .

Яны будзяцца... устаюць... падымаюцца і ўступаюць у барацьбу з тым спакоем, што так мазольна будаваў дзень ясны; у барацьбу за сваю свабоду... Га, ня доўгая барацьба... і хутка таёмныя сілы заводзяць на руінах спакою свой шалёны танец...

---

На што вы, ночы летнія, будзіце іх? Чаму вашыя цяжкія душныя пахам кветак і вод крылы ня здушаць іх парываў і не пагрузяць у сон забыцьця?..

## II.

Халодным, зялёным сьветам аблівае месяц зямлю...

Сьветлая верасьнёвая ноч. Серабром адбіваюць застыўшыя ў дрымоце лісьці дрэў... Нейкім дзіўным, засьветным холадам абняло ўсё кругом.

Быццам, дыхнула надходзячая зіма і сьмяротным страхам абняслa ўвесь сьвет...

---

Бясшумна падымаюцца з глыбіні душы: Жуда і Сум'..

Пад халодным сьветам месяца растуць, выцягіваюцца і, як мары зачараваныя, ідуць некудысь у даль...

Спакойныя, як самая сьмерць...

Ціха і бясшумна ідуць у даль і павольным рухам нявідных рук навіваюць на сталёвыя верацёны фібры душы... па аднэй... па аднэй...

---

Смяротным холадам абыймае сьвет ясная верасьнёвая ноч...

З. В.

# Вецер выу.

Вецер васеньні шалеў, выючы ўсімі тонамі роспачы і болю... Выў вецер... бяздольны пан і ўладар апусьцелых абшараў... Выў і праклінаў адзіноцтва свае.

Кідаў пракляцьця, як громы магутныя... у бяссільнай злосьці сваей ламаў галіны бязвінных дрэў... Гнаў цэлыя хмары мёртвых лісьцяў... і плакаў, і стагнаў..., а яму ўторылі совы вялікавокія з глыбіні чорных дуплоў...

Дрыжалі бязлістныя, жалобныя дрэвы... ціхім шэлестам скардзіліся жоўтыя хмары лісьцяў... чырвонымі сьлязамі сыпалі каліны і рабіны...

З шэрага халоднага неба ліліся хвалі дробнага дажджу...

А вецер выў... З. В.

# Увосені.

Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі,
І вясеньняе сонца зямлю цалавала,
А сягоньня ўжо нудна, жаўцеюць лісты,
А сягоньня ўжо восень бяз мала.

Толькі ўчора, здаецца, пралескі цьвілі
І ў шоўк прыбіраліся новы бярозы,
А сягоньня ўжо яблыкі з дрэваў зьнялі,
І па шклу плывуць восені сьлёзы.

Толькі ўчора, здаецца, над сіняй ракой
Салавей заліваўся, а мы там сядзелі,
А сягоньня ўжо поўнае сэрца тугой,
Быццам шчасьця ў жыцьці мы ня мелі...

* * *

Жоўтыя клёны, у хварбах асіны,
Кісьці крывавыя ў вецьці рабіны,
Сіняе неба, ў начныя часіны
Дождж з дагараючых зор...

У травах пажоўклых бліскучыя ніці, —
Людзям ніколі танчэйшых ня зьвіці,
Астры апошнія ў садзе,—ня йрвіце,
Восені гэта убор...

Восень, прыбраўшыся ў кроў і у сонца,
У золата лісьця, у жамчуг—валаконцы,
З ліры сваёй здабывае бяз кóнца
Струнаў глухі перабор.

Раняць душу ледзьве-чутныя гукі,
Самы сабой апускаюцца рукі,
Родзяць у сэрцы жальлівыя згукі
Восені песьню—жальбу...

Родзіцца песьня і ў нéбыт сплывае
Разам з лістамі, што клён абтрасае,
З сонцам, што ў чырвані дрэў дагарае,
З першаю кропляй дажджу...

Хэлмно. **Наталя Арсеньнева.**

# У КУЗЬНІ.

Молат б'ець, зьвініць жалеза,
Іскры сыплюцца ўвакруг,
Для цябе, сялянін мілы,
То каваль гатуе плуг.

Йдзі-ж, гары твае загоны,
Сей, зьнімай і малацi,
Сьмела стой за свае права,
Лёс і долю залаці.

Будзь каваль свае ты кузьні,
Молат сьмела апускай,
Зьдзек, пакуту і зьнявагу,
Не цярпі, а адганяй!

Вер ў свае магутны сілы,
Вер, што прыдзе час!
Бо прамень для твайго шчасьця
Яшчэ сьвеціць, а ня згас.

---

Молат б'ець, зьвініць жалеза,
Іскры сыплюцца, шумяць,
Селянін з кавалём разам
Вышлі шчасьце будаваць...

**У. Дзядок.**

# На рассьвітаньні.

Як шнур, чырвоная істужка
Усход далёкі асьвяціла
І, адагнаўшы ночы ката,
Людзей да працы разбудзіла.

Ўставай, народ! да працы сьмела!
Будзі жанок, будзі дзяцей;
Па хлеб, па Волю, па навуку,
Усе, як адзін, ідзі скарэй.

Не глядзі што хмары ночы
Засьцілаюць яшчэ неба,
Ўставай! бо-ж сонца ўжо усходзе
І ў працы велькая патрэба.

**У. Дзядок.**

# Зорка.

Так цёмна, маркотна і сумна наўкол...
І месяц за хмаркі схаваўся,
А зорак на небе нямы карагод
Дзесь згінуў, як быццэм — спужаўся.

Над соннай зямлёю з нябеснай высі
Скрозь рэдкія хмаркі начныя
Адна толькі зорка на гора глядзіць,
Што душыць сялібы зямныя.

Сьпіць ціха у пóцемках нема зямля —
Збудзіцца ў цемры ня можа,
А зорачка толькі на небе адна
Маркотную землю трывожа.

Што-ж сьведчыць яна серад цёмнай начы?..
— Яна люд шматпакутны збуджае:
Што гляне ўжо воля над нашай зямлёю,
Што лепша нас доля чакае. —

— Сьвяці-жа, прадвесьніца шчасьця зямлі
І роднага краю уночы,
Пакуль беларускі народ не пазнаў,
Чым сьвеціць прамень твой прарочы. —

**Лясная кветка.**

# Толькі проза.

У век „рэальны“, „век свабоды“
Стала проза ўсім да моды.
Як-жа ёй ня быць у модзе?
„Проза ўсё ў жыцьці—ды годзі“!

Ах! Ганулька дарагая,
Сэрца ўжо твае ня знае,
Што пражытая табою
Той вясноваю парою —
Не паэзія, а проза. —
Усё: й бярозанька—бяроза,
Што нас скрыпамі прымала
І галоўкаю вітала,
Лісьцямі-шалястунамі —
Як-бы гаманіла з намі.
І за садам тая рэчка,
Што, здаецца, недалёчка
Па каменьнях булькатала,
Да сябе нас заклікала:
Падыйсьці і падзівіцца,
Як усё цьвіце, іскрыцца.
Навакола, як прыгожа!
Пахне як язьмін і рожа,
Плотка з вокунем танцуе,
Ясень з вольхаю жартуе.
І той месяц, што з-за хмаркаў
Насустрэч да нас бег шпарка,
Каб, як мы сябе убачым,

Сьветам нас абліць дрыжачым.
Ах! і песьня салавейкі,
Што так голасам жалейкі
Сьвішча, б'е, перабівае,
Што аж дух у нас займае:
Што так ўраз як застракоча,
На ўвесь лес як зарагоча,
Як цымбаламі удэрыць —
Глыб у сэрцы проста мерыць...
І дзяньніцы уставаньне,
Нашы мукі расставаньня —
Усё у век рэальнай дозы —
Толькі проза, толькі проза. —

!. Дварчанін.

З вершау **А. Салагуба**, вуч. Віл. Бел. Гімназіі, *з Лукіскага вастрогу.*

# Не для славы.

Не для крыку, не для славы,
Мы павінны працаваць,
А за сьветлую ідэю
Разам ўсе мы мусім стаць.

Ня ісьці, не адлучацца
Ад сярмягі, ад братоў.
Усё жыцьцё трэба змагацца,—
Жыць усім без ланцугоў.

Хай асьвеціць сонца ясна
Гэты наш цярністы пуць.
Да злучэньня ўсіх народаў
Хай шляхі усе ідуць.

11/XII 1924 г.

# О, дні вясны маей...

О, дні вясны маей зялёнай,
О, дні натхненьня, думак, мар,
Праводжу вас ў турме сьцюдзёнай,
Калі гарыць ў душы пажар.

Калі імкнешся ў высь, да зораў,
Шукаеш праўды і ідэй,
Шукаеш шчасьця для людзей,
Шукаеш ім прасьцейшых ходаў.

Той час навукі і каханьня
Праходзіць марна, нібы цень.
І так ад раньня да зьмярканьня,
Як у бяздоньне згіне дзень.

Ды толькі ў сэрцы ёсьць надзея,
Касулей сонечнай блішчыць,
Што не памрэць наша ідэя:
Яна жыла і будзе жыць.

23/V 1924 г.

# Ох, сумна вясной...

Ох, сумна сядзець мне вясной у вастрозе,
Ох, цяжка дзянькі каратаць,
Ляпей памерці на полі, ў дарозе,
Чым у дні маладыя стагнаць.

Чуць усей душою, вясна што настала,
Што дрэвы і краскі цьвітуць.
І ведаць, зіма што з марозам прапала,
Што птушачкі пекна пяюць.

Чуць усё гэта і быць адлучоным
Ад сьвету цаглянай сьцяной...
О, нявыносна на сэрцы мне стала
Вось, вось, я памерці гатоў.

І нібы ад сну ты часамі прачнесься,
Як думка маланкай ў мазгох зіхане.
І нібы рабіна, ты ўвесь страсянесься,
Здаецца, хтось шэпча на вуха табе.

„Ня думай аб сьмерці ты мой, чалавеча,
Ня вечна-ж ты будзеш у вастрозе сядзець.
Ня вечна ў даль... праз жалезныя краты,
Ты будзеш так сумна глядзець.

Жыцьцё прад табою і шлях твой шырокі,
Да шчасьця адчынены дзьверы.
А што пацерпіш ты, у тым сэнс ёсьць глыбокі,
Ня страць ты надзеі і веры.

Лукішкі 30/V 1924 г.

# Песьня у вастрозе.

Калі сэрца нуда спавівае,
І ў душы разьвіваецца жаль,
І трывогай цябе ахапляе,
Дык глядзіш ты панура удаль.

Тады думка ў мазгох зварухнецца,
Каб жаль злосны з душы разагнаць.
На зьдзейсьненьне надзея прачнецца,
Пачнеш родную песьню пяяць.

Ды штось з роднае песьні матыву
Ты ня знойдзеш нуду замарыць,
А больш сэрца падводзіш к разрыву,
І пачнеш у паўсьне нейкім жыць.

Ў нашых песьнях вясёлае ноткі
Трэба доўга парыцца—шукаць,
Каб у момант патрэбны, кароткі,
Мог ты сум і нуду разагнаць.

Эх, вы песьні мае дарагія,
Хто вас сумных такіх наскладаў?
Ці жыцьцё пад няволяй злажыла?
Ці сярмяжны наш люд напяяў?

23/V 1924 г.

# З народнай творчасьці.

## Народныя песьні.

(Вясельныя).

*(Песьняй гэтай пачынаюць вясельле).*

Маладая дзевачка, ды не сядзі ў запечку,
Ды вылезь на хатачку,
Папрасі свайго татачку:
— Татачка мой родненькі,
Зачынай вяселейка,
Весялі сваё племейка,
Маё племя вясёлае,
Чужое—знакомае,
Далёкае—блізкае.

---

*(Песьня гэта пяецца на вясельлі маладой, калі яна ад'яжджае да маладога, або пры канцы вясельля, калі ўсе госьці ад'яжджаюць, а маладая астаецца ў новай сям'і).*

Ой, гара з гарой разьлягаецца.
Божа мой!
Дзевачка з мамачкай разлучаецца.
Божа мой!
Ой, лепей было не радзіціся.
Божа мой!
Як мне з мамачкай разлучыціся.
Божа мой!
Ой, было не кахаціся.
Божа мой!
Як мне з мамачкай разлучаціся.
Божа мой!

Малады маршалачак,
Чаму ўдаўся харошанькі?
Ці ня сонца парадзіла,
Ці ня месяц гадаваў,
Ці ня зоры калыхалі?
Мае родныя сястрыцы,
Парадзіла мяне мамачка,
Гадаваў мяне татачка,
Калыхалі мяне сястрыцы
Ды ў новай сьвятліцы,
У ядвабнай калысачцы,
На шаўковых нітачках.

Паміж гор горачак
Там сьвяціла зорачка,
Там хадзіла дзевачка.
Яна хадзіла, блудзіла,
Залатога каменьня шукала.
— Каменчык мой залаценькі,
Бадай бы я цябе знайшла,
Я-б цябе раскалола на дробныя драбнушачкі,
Дзевачкам на істужачкі,
Маладой на вяночак,
Большанцы на пярсьцёначак.

Запісала **Н. Арсеньнева**. Доры. Вялейскага пав.

* * *

Край рэчанькі, край Дунаю, сьціха вада льецца.
Любіў хлопец дзяўчыненьку, а цяпер сьмяецца.
Ня сьмейся ты, да ня сьмейся, ня сьмех табе будзе—
Хварэць будзеш, балець будзеш, такі-ж ты мой будзеш!
Ах маю я тонкі голас—пушчу край ляшчыны,
Не адну я ночку ня спаў—плакаў па дзяўчыні!
Ах маю я тонкі голас—пушчу край Дунаю,
Не адну я дзеўку змануў, яшчэ дзесяць маю!
Адна шые, друга мые, трэйця вышывае,
Чацьвёртая рукі ломіць, пята памірае,
Шосту люблю, сёму вазьму, з васьмою жартую,
З дзевятаю ў танец іду, з дзесятай жыць буду!
Голуб сівы, голуб сівы, галубка сівейша—
Айцец мілы, матка міла, дзяўчына мілейша.
З айцом, з маткаю ззыйдуся—граху набяруся,
А з дзеўчынаю ззыйдуся,—не нагаваруся!

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадз. пав.

* * *

Ой ў полі крынічанька—
Вецер воду вылівае
Гэй, гэй!
Маладая малоданька
Свае жыцьцё праклінае!
Нявіннае мае жыцьце
Ды вінная мая маці:—
Гэй, Гэй!
За каго я не хацела
Было мяне не аддаці!

А я цябе-ж не давала,
Толькі цябе заручыла.
Гэй, гэй!
Маладая малоданька
Свае жыцьце засмуціла!
Як я была дзявіцаю,
То мылася вадзіцаю
Гэй, гэй!
А як стала маладзіцай,
То больш сьлёзак, як вадзіцы!..

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадз. пав.

* * *

Ой ляцелі жураўлé,
Ды паселі на ральле,
Ды радзяцца аб зямле.
На раньняй раліцы
Родзіць жыта—пшаніца,
На позьняй раліцы
Расьце куколь, мятліца.
А на рынку мужыкі
Таргуюцца аб жанкі—
Я з адною дзеці меў,
А з другою гадаваў,
А з трэйцяю рассылаў:

Йдзеце, дзеці, служыці,
Ніж мачасі гадзіці.
Йдзеце, дзеці за мною,
Пакажу вам дарогу,
Пакажу вам дарогу,
Да самага Ільвова.
А ў Ільвові на рынку
П'юць сіроткі гарэлку.
А багаты дзівіцца—
Чым сіротка жывіцца?
Ты багаты ня дзівуй—
Што я маю, тым жыву.

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадз. пав.

# Страшны суд.

(*Народны твор*).

Вось паслухайце, ўсе людзі,
Як на Страшным судзе будзе.
Хто, браты, з нас жыў са грэхам,
Таго будзе Бог караць ня сьме-
хам.
Хто ня жыў, як было трэба,
Той не пападзець ніколі ў неба.
Страшны суд той будзе скора,
Вось тады нам будзець гора!
Пашлець Бог Міхаіла ў трубу
трубіць:
Усіх людзей на суд будзіць.
Трубы страшна заравуць,
Ураз людзей усіх сабяруць.
Хто ўдоме уміраў,
Хто на сьнягу замярзаў,
Хто у моры утапіўся,
І хто ўдома атруціўся,
І хто ў возеры на дне,
І хто забіты на вайне,
І ў магілках хто схаваны—
Усе тады будуць сазваны.
І так многа сабярэцца,
Што зямля аж садрыгнецца.
І тады, што людзі скажуць,
Як грахі іх пераважуць?
І пачнуць чытаць па кнігах,
Хто і як на сьвеце жыў,
Й што за век свой заслужыў.
А Бог з крыжам прыдзе з неба
І скажаць каму куды трэба.
Добрых ўправа ўсіх папросіць,
Злых налева чорт пазносіць.
Добрых будзе ў неба адсылаць,
А злых ў пекла праганяць.
Вось палупаеш вачамі,
Як увідзіш ты з рагамі!
Скажаць Бог усім добрым так:
„Як жылі вы не абы як,
Цярпелі для крыжа сьвятога,
Дык у неба вам дарога,
Што Бога, блізкіх мілаваў,
За тое і неба ты дастаў“!

А грэшным—„прэч ідзіце“! ска-
жаць
І на пекла пальцам ён пакажаць.
„Вось куды вам ўсім дарога,
Калі ня слухалі вы Бога“!
Можа-б, і вы хацелі ў неба,
Ды павядуць вас, куды трэба.
Для вас мука не пазбытая
Не адна душа будзе бітая,
Не адзін з вас уздрыгнець,
Як у пекла чорт папхнець
Ды у бруха вілы ўсадзіць
Да па лбе кіём пагладзіць“!
Будзець табе там не ў пасьцелі
Ксёндз ня раз казаў ў касьцеле:
„Не грашыце, мае дзеці,
Цяжка будзець на тым сьвеце“!
А вы слухаць не хацелі,
Ды хутчэй ў карчму ляцелі.
А ў карчме ды напіліся,
А, напіўшысь, пабіліся.
А за гэтую за драку
Будуць вас пячы, як рака.
А ты, што Бога не баяўся —
Бацьку, матцы наругаўся,
Мусіць, чорт табе памог
Казаць на бацьку, каб ты здох,
А на матку, каб прапала
За тое й пекла табе мала.
Не адна душа ў смале кіпіць
Таго, хто гэтак гаварыць.
Скажаш: „ратуй, мама, ратуй,
тата,
А то цяжка ў пекле надта“!
Закрычыш ты, браце, козачкай,
Што не сьцябалі цябе розачкай;
Зараўеш ты нема быкам,
Што ня быў ты бацькам біты.
Ага! пачакай-жа й ты, дачушка,
Будзець і табе закуска!
Маткі слухаць не хацела,
Толькі вымыцца, каб бела
Ды прыбрацца, каб па модзе —

(Будзеш у смале, як ў вóдзе!)
Яшчэ грыўку падстрыгаець
Ды цьвічочкам напякаець,
І закруціць, навалкуець,
Ды і шчочкі падмалюець,
Ды сьмяецца тады з другіх,
Што прыгажэйшая за іх,
Што яны ня ўмеюць маляваць
І сваіх грывак настаўляць.
А ў касьцёл, калі як прыдзець,
Дык толькі каб мальцаў відзець.
Богу пацеры складаець,
А на хлопцаў паглядаець,
Каб каторы палюбіў
І да дому правадзіў.
Ты думала, што мінулася,
Аж цераз год адрыгнулася,
А тады гадок спусьця
Найшлося йшчэ дзіця.
І дзівуецца адкуль, што якое:
Было адно, а цяпер двое.
Вось, дачушка—знай за гэта
Намалююць добра скуру:
Зробяць яе, як бандуру.
Будзе і матцы пекла,
Чаму малую бізуном ня секла,
Папакутавай за дзяцей,
Што ня секла іх часьцей.
Бацька, матка тут і дзеці,
Што ня так жылі на сьвеце...
Вось, мой мілы тата,
Якая табе за нас адплата!..
Пачакай, мая дачушка,
Будзець табе горшая закуска!
Будзець табе ліха,
Як будуць чэрці хватаць цябе ціха.
Ня будуць ні ў каго пытаць,
Як туды це будуць браць.

Ні у Гіршы, ні у Моткі
Не папросіш болей водкі,
А будзеш піць смалы каўшочкі
Аж падпухнуць твае вочкі,
І за кожную лішню чарку
Будуць грэць смалу на карку...
А хто за паўкварты прысягнець,
Той ў смале ўвесь паплывець.
Адным словам за напіткі
Напякуцца там вашы лыткі.
Ня здох бы з вас ніхто ніколі,
Каб й ня ведаў манаполю!
А цяпер будзе скрыгітаць зубамі
І дрыгатаць нагамі,
Як стануць чэрці скуматаць,
Будзеш, брат, тады ўсё знаць!
Ага!... Пачакай і ты, старшыня,
Будзе і табе прычына!—
Што ты грошы дарма браў
І ўсіх бедных абвіняў,
Што ты бедных ня любіў
І па праўдзе ня судзіў:
За багацейшых ўсё браўся,
А пра бедных забываўся.
Ляцеў на дармавую водку
І заліваў ёю сваю глотку.
Хто на водку к сабе зваў,
За таго ты на судзе стаяў,
І хто рубельчык палажыў,
Таму пячатку падлажыў.
Там на гэта не ўважалі,
Што хадзіў ты пры мядалі,
Упіхнуць чэрці старшыню
У самую глыбіню.
Ды і наложаць там пячатак
Ад хахла да самых пятак!...

Запісаў **Ів. Пачопка.**

(Дзісеншчына)

---

# Папраўка.

У стацьці Ант. Навіны: „Вільня ў беларускай літэратуры“ здарыўся прыкры пропуск цэлага абзацу, у якім аўтар, кажучы аб слабым адбіцьці Вільні ў творах Янкі Купалы, адзначае верш яго, пасьвячоны Вільні: „Замковая Гара“ („Гусьляр“, Пецярбург 1910 г.).

Падаем тут гэты мала ведамы верш:

# ЗАМКОВАЯ ГАРА.

*(З віленскіх абразоў).*

Над Вілёй ракой,
Па гарэ крутой
Туман сьцелецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок,
Там віднеецца.

Слаўны Гэдымін,
Князь Літвы,—літвін,
Душа чынная,
Многа лет таму
У гэтым жыў даму
Са дружынаю.

Горда мур глядзеў
На зямлю, як леў,
Сьцяной крэпкаю;
Не аднэй бітвы
Тут сыны Літвы
Былі сьведкаю.

Сыйшоў век, другі,
І князі, багі,
Усё Літоўскія,
Уцяклі з зямлі,
І дзянькі пайшлі
Нетакоўскія.

Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,
Цэгла валіцца;
Навет гнёзды віць
Птушка не ляціць,
Знаць, пужаецца.

Адно йдуць сюды
З гарадзкой нуды
Адказеліцца
Бедната і знаць,
Віды аглядаць,
Што ў ног сьцелюцца.

Ды як згасьне дзень,
Ночкі ляжа цень
Над дамочкамі,
Людзкіх шэптаў тут
Повен кожны кут
Пад кусточкамі.

А сівою мглой
Па гарэ крутой
Туман сьцелецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок
Там віднеецца.

# ХРОНІКА.

— **Агульны сход Студэнтаў-беларусаў.** У нядзелю 22. XI. ў 4 гадз. дня адбудзецца гадавы сход Студ.-Беларусаў Віленскага Унівэрс.

Сход адбудзецца ў памешканьні Цэн. Беларускае Школьнае Рады (Віленская 12—6).

— **Колькі сяброў у Белар. Студ. Саюзе ў Вільні.** За час істнаваньня Бел. Студ. Саюзу злажылі дэклярацыі аб уступленьні ў нашую арганізацыю каля 60—70 асоб.

— **Бібліятэка Белар. Студ. Саюзу.** Бібліятэка Белар. Студ. Саюзу адчынена што—нядзелю ад 4—6 гадз. п. п.

— **Публічныя лекцыі Белар. Студ. Саюзу.** Урад Белар. Студ. Саюзу распачаў цыкль публічных лекцыяў,пасьвечаных беларускаму пытаньню.

Першую лекцыю прачытаў п. А. Луцкевіч у нядзелю 25. X. на тэму: „Вільня ў беларускай літэратуры“.

— **Лёс сёлетніх абітурыэнтаў Вілен. Белар. Гімназіі.** Адсутнасьць стыпэндыяў у Праскім Унівэрсытэце зачыніла сёлета дзьверы нашым абітурыэнтам у Чэскі Унівэрсытэт.

Частка з іх паступіла ў Віленскі Унівэрсытэт, хоць вольнымі слухачамі, другая большая частка шукае вышэйшай асьветы ў іншых загранічных унівэрсытэтах.

— **Дзесяцёх—годзьдзе беларускае школы.** 13. XI. мінае 10 гадоў ад дня закладзінаў першае беларускае школы.

Цэн. Белар. Школьн. Рада ладзіць з прычыны гэтага акадэмію, з рэфэратамі аб жыцьці і гісторыі беларускае школы ў нас і ў Радавай Беларусі.

— **Агульная гісторыя і географія папольску.** Польскі ўрад, загадам міністра прасьветы ўводзіць выкладаньне ў сярэдніх няпольскіх школах агульнае гісторыі й агульнае географіі папольску, выкараняючы гэтым нацыянальны дух з гэтых школаў.

Віл. Беларуская Гімназія, уважаючы гэта за замах на беларускасьць Гімназіі, у паразуменьні з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі пастанавіла вясьці выкладаньне пастараму.

— **Студэнскія Арганізацыі пры Вілен. Унівэрсытэце.** Пры Віленскім Унівэрсытэце істнуе 42 польскія студэнскія арганізацы, 1 жыдоўская і адна беларуская, Б. С. С.; у апошнім часе ўтварылася арганізацыя Студ.-расейцаў; калі судзіць па складзе ўраду, дык гэта арганізацыя расейцаў-эмігрантаў.

Аб польскіх арганізацыях можам канстатаваць вельмі сумны факт, што з гэтых 42 арганізацыяў ані аднае няма прыхільнай або сымпатызуючай Беларускай справе.

## З Радавае Беларусі.

— **Сусьветны зьезд беларусазнаўцаў.** Прэз. Інбелкуту арганізуе сусьветны зьезд беларусазнаўцаў; праца вядзецца ў інтэнсыўным тэмпе.

— **„Чырвоны Сьцяг“.** Менскія студ.-беларусы выдаюць сваю часопісь „Чырвоны Сьцяг“.

— **Палажэньне Студэнтаў у Радавай Беларусі.** Паводле газэтных вестак, у Радавай Беларусі з прычыны цяжкага матэр'яльнага становішча Студэнтаў, пастаноўлена ў 1925—26 школ. годзе забясьпечыць стыпэндыямі ня менш 50% студ. і 75% слухачоў палітэхнікуму.

## З ЧЭХІІ.

— **З жыцьця студ. Беларусаў у Празе.** Дзякуючы польска-чэскаму паразуменьню, новыя стыпэндыі для студэнтаў беларусаў, якія эміґравалі ў Чэхію на вышэйшую навуку, прыпынены.

Студэнты, атрымоўваючыя стыпэндыі ў суме на польскую валюту каля 60 зл., б'юцца, як рыба аб лёд; агульнае палажэньне пагоршылася, і агулам благое.

## З ЛАТВІІ.

— **Зачыненьне Люцынскае дзяржаўнае беларус. гімназіі.** Латвійскі ўрад, распачаўшы паход проці беларусаў, вядзе антыбеларускую палітыку й далей; гэтак у апошніх часох зачыніў дзяржаўную Люцынскую беларускую Гімназію, пазбаўляючы гэтым сотні беларускіх гадунцоў атрымоўваць асьвету ў роднай мове, а нават частку й зусім выкідаючы за дзьверы школы.

---

Рэдактар Выдавец: **Адольф Зянюк.**

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

**на першы на беларускай мове царкоўна-народны, літэратурны і папулярна-навуковы журнал**

## „Праваслаўны Беларус“

Пачынаючы з 1-га лютага 1925 г., выходзіць 2 разы ў месяц на сацінавай паперы з рысункамі ў каляровай акладцы.

„**ПРАВАСЛАЎНЫ БЕЛАРУС**“ будзе усебакова асьвятляць жыцьцё царквы і белар. народу ў Польшчы і заграніцай і дбаць аб пашырэньні культуры, рэлігійнай і нацыянальнай сьвядомасьці сярод Беларускага Народу.

„**ПРАВАСЛАЎНЫ БЕЛАРУС**“ будзе зьмяшчаць царкоўныя казаньні, стацьці па гісторыі Царквы і па агульнай гісторыі беларускага народу і яго культуры, апавяданьні, вершы, карысныя парады і інфармацыі аб галаўнейшых падзеях сучаснага жыцьця.

ЦАНА: на 1 мес.—1 зл., на 3 мес.—3 зл., на 6 мес. — 5 зл. 50 гр., на год — 10 злотых.

ЗА ГРАНІЦУ: на 1 мес. — 35 цэнтаў, на 3 мес. — 1 даляр.
Грошы можна высылаць у мясцовай валюце.

Грошы пасылаць: Warszawa—Praga, Zygmuntowska, 13.

---

**ПАСЬЛЯ ЛЕТНЯГА АДПАЧЫНКУ**

## „Авадзень“

**багата - люстраваны гумарыстычны журнал — пачынае ізноў акуратна выхадзіць. )—( Старых нашых знаёмых і прыяцеляў запрашаем да чыннага супрацоўніцтва.**

„**АВАДЗЕНЬ**“ будзе пасылацца толькі за грошы.

**Хто перадплаты не надаслаў, просім парупіцца.**

ЦАНА на год — 7 зл.; на 1/2 — 3.50; на 3 м. — 1.80.

**За граніцу на год тры даляры.**

Адрас: **Wilno, Zawalna 7** (пры кнігарні).

